# Голас Радзімы

№ 28 (2066)
14 ліпеня 1988 г.



ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)



Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.


Міхась МАШАРА

*Горад наш, горад —*
*сталіца,*
*зноў ты цудоўны такі,*
*гордасці нашай*
*крыніца,*
*родны наш Мінск,*
*дарагі!*

*Лёг ты на ўзгорках*
*шырока*
*сталлю і цэглай*
*муроў.*
*Выраслі аж над*
*аблокі*
*гмахі высокіх дамоў.*

*Дзе былі груды*
*руінаў*
*і папялішча адно,*
*сёння вачамі*
*дзяўчыны*
*радасць глядзіць*
*праз акно.*

*Сонцам заліты ўсе*
*плошчы,*
*сонца — у люстрах*
*вітрын.*
*Смутак аблічча*
*не зморшчыць,*
*воч не засмуціцца*
*сінь.*

**У самым пачатку ліпеня, у выхадныя дні, у сталіцы Савецкай Беларусі адбылося традыцыйнае спартыўна-мастацкае свята «Мінск-88», прымеркаванае да 44-й гадавіны вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**НА ЗДЫМКУ: гулянне ў скверы імя Янкі Купалы. (Працяг фотарэпартажу змешчаны на 8-й стар.).**

(Працяг фотарэпартажу змешчаны на 8-й стар.)

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

1000-ГОДДЗЕ ХРЫШЧЭННЯ РУСІ





Урачыстасці ў гонар шырока адзначаемага ва ўсім свеце 1000-годдзя хрышчэння Русі адбыліся ў Мінску. На юбілейныя мерапрыемствы прыбылі прадстаўнікі духавенства Рускай праваслаўнай царквы, розных цэркваў і рэлігійных арганізацый зарубежных краін, ганаровыя госці. 4 ліпеня яны азнаёміліся з горадам і яго славутымі мясцінамі, наведалі Мінскі кафедральны сабор і храм Аляксандра Неўскага, нанеслі візіт у Мінскае епархіяльнае ўпраўленне.

5 ліпеня адбылася паездка ў мемарыяльны комплекс «Хатынь». Затым у Мінскім кафедральным саборы прайшоў урачысты малебен.

Удзельнікі святкаванняў усклалі вянок і кветкі да абеліска «Мінск — горад-герой».

Вечарам у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР адбыўся ўрачысты акт, прысвечаны 1000-годдзю хрышчэння Русі.

Прывітанне Савета Міністраў рэспублікі ўдзельнікам урачыстага акта прачытаў упаўнаважаны савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР па БССР А. Залескі. У прывітанні, у прыватнасці, гаворыцца: «Адзінства народа, грамадзян, незалежна ад іх адносін да рэлігіі, з'яўляецца важнейшай умовай нашага руху наперад да грамадства сацыяльнай справядлівасці... Урад рэспублікі аддае належнае актыўнай міратворчай дзейнасці царквы, яе намаганням у барацьбе за раззбраенне, за бяз'ядзерны ненасільны свет, за міжнароднае супрацоўніцтва. Выказваем надзею, што царква і веруючыя і ў далейшым будуць выконваць свой патрыятычны і грамадзянскі абавязак, адстойваць справу міру, садзейнічаць умацаванню гуманістычнага, маральнага патэнцыялу народа, агульнанародных, агульначалавечых духоўных каштоўнасцей».

З прамовай да прадстаўнікоў духавенства, грамадскасці і гасцей звярнуўся мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт. Напомніўшы аб нядаўняй сустрэчы ў Крамлі Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова з патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі Піменам і членамі сінода Рускай праваслаўнай царквы, ён прывёў яго словы аб тым, што ва ўсіх нас — атэістаў і веруючых — агульная гісторыя, адна Айчына і адна будучыня. «І роздум над усім гэтым, — падкрэсліў мітрапаліт Філарэт, — наспеўшая неабходнасць, закліканая садзейнічаць поспеху перабудовы і дэмакратызацыі савецкага грамадства, умацаванню адзінства ўсяго нашага народа».

Мітрапаліт выказаў удзячнасць савецкім і гаспадарчым органам рэспублікі, якія аказалі вялікую дапамогу ў ходзе падрыхтоўкі да юбілейных урачыстасцей, у рэгістрацыі новых абшчын і адкрыцці больш дзесяці новых храмаў, у рэстаўрацыі многіх цэркваў, назваў праблемы, якія патрабуюць вырашэння. Ён адзначыў, што царква, спрадвеку верная абавязку міласэрнасці, служыць яму і сёння. Веруючыя Беларускай епархіі ўносілі ахвяраванні для ліквідацыі вынікаў аварыі ў Чарнобылі, ахвяруюць свае зберажэнні ў Дзіцячы фонд імя У. І. Леніна, развіваюць супрацоўніцтва з грамадскімі дабрачыннымі арганізацыямі.

З прывітальным словам да прысутных звярнуліся рэлігійныя дзеячы, прадстаўнікі грамадскасці.

Затым адбыўся святочны канцэрт з удзелам вядучых майстроў мастацтваў рэспублікі.

На ўрачыстым акце прысутнічалі намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР В. Крыцкі.

6 ліпеня ў Савеце Міністраў БССР адбыўся прыём прадстаўнікоў духавенства Рускай праваслаўнай царквы, розных цэркваў і рэлігійных арганізацый зарубежных краін і ганаровых гасцей, якія ўдзельнічалі ва ўрачыстасцях у гонар 1000-годдзя хрышчэння Русі, што праходзілі ў Мінску. Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Еўтух, выступіўшы на прыёме, адзначыў паглыбленне адносін паміж дзяржавай і царквой, якія атрымалі дабратворнае развіццё ва ўмовах перабудовы і дэмакратызацыі ўсіх сфер жыцця грамадства.

У слове ў адказ мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт падзякаваў ураду рэспублікі за дапамогу ў падрыхтоўцы да юбілейных урачыстасцей, за ўвагу да патрэб царквы і веруючых. Выступіўшыя на прыёме падкрэслілі важнасць умацавання адзінства народа ў імя міру і шчасця людзей. Мітрапаліт Філарэт уручыў Савету Міністраў рэспублікі пасланне ўдзельнікаў юбілейных урачыстасцей у Беларускай епархіі.

**НА ЗДЫМКАХ:** урачысты малебен у Мінскім кафедральным саборы; удзельнікі ўрачыстасцей ускладаюць кветкі да манумента «Мінск—горад-герой»; у час наведання Хатыні.

ЭКСПРЭС – ІНТЭРВ'Ю

## «МІНСКАЯ ПРЫГАЖУНЯ-88»

**Пад такой назвай прайшоў у сталіцы рэспублікі першы гарадскі конкурс прыгажосці. Расказаць аб гэтай новай для нашага жыцця з'яве мы папрасілі нашага калегу, члена журы конкурсу, загадчыка аддзела рэдакцыі газеты «Вячэрні Мінск» Алега БІЛАНА.**

— ЗУСІМ НЯДАЎНА Ў НАШЫМ ГРАМАДСТВЕ ІСНАВАЛІ АДНАЗНАЧНА НЕГАТЫЎНЫЯ АДНОСІНЫ ДА КОНКУРСАЎ ПРЫГАЖОСЦІ. І РАПТАМ МЫ САМІ ПАЧЫНАЕМ ПРАВОДЗІЦЬ ІХ У РОЗНЫХ ГАРАДАХ КРАІНЫ. ЧАМУ?

— Цяпер многае мяняецца ў нашым жыцці, і такія конкурсы — адно са сведчанняў перамен. У нас у Мінску ўжо некалькі год праводзіцца свята горада. Газета «Вячэрні Мінск» на працягу доўгага часу публікавала шматлікія пажаданні і парады мінчан, як лепш арганізаваць яго. Была і прапанова правесці ў рамках гэтага свята конкурс «Мінская прыгажуня». Так што конкурс праводзіцца ў адпаведнасці з жаданнем жыхароў сталіцы. Хаця, дзеля справядлівасці, трэба адзначыць, што ёсць людзі, якія выступаюць супраць і бачаць у гэтым нешта «грэшнае» для сацыялізму.

— ХТО І ЯК АРГАНІЗОЎВАЎ І ПРАВОДЗІЎ КОНКУРС? ХТО ВЫРАШЫЎ, КАМУ СТАЦЬ МІНСКАЙ ПРЫГАЖУНЯЙ?

— Галоўнымі арганізатарамі конкурсу былі Упраўленне культуры Мінгарвыканкома, Дзяржтэлерадыё БССР, Мінскі гарком камсамола. Паколькі конкурсу пастараліся надаць прыкладны характар, практычны напрамак, да яго арганізацыі былі прыцягнуты «Белгандальрэклама» і Аэрафлот. На праглядах прысутнічалі і касметолагі, цырульнікі, мадэльеры. Многім з удзельніц конкурсу яны дапамаглі ўладкавацца ў жыцці, прапанавалі працу. Цяпер аб журы. У яго склад увайшлі прадстаўнікі самых розных прафесій і арганізацый, але ўсе без выключэння — мужчыны. Старшыню журы вырашылі не выбіраць, каб ніхто не мог паўплываць сваім аўтарытэтам на вынік.

У конкурсе прынялі ўдзел 316 прэтэндэнтак. Шлях да фіналу быў нялёгкім. Аргкамітэт свята «Мінск-88» выбар каралевы прыгажосці арганізаваў у пяць этапаў. Для праходжання першага ад удзельніц патрабавалася толькі адна ўмова — прывабны знешні выгляд. У наступных — сярод дзяўчат праводзіліся індывідуальныя конкурсы: чытанне, танцы, аэробіка. Вызначаўся і густ прэтэндэнтак пры карыстанні касметыкай, пры выбары прычоскі. У фінал трапіла дзевяць дзяўчат.

— ХТО Ж СТАЎ МІНСКАЙ ПРЫГАЖУНЯЙ-88?

— Ёю стала студэнтка Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, будучая актрыса Анжэліка Ялінская. Прыз глядацкіх сімпатый дастаўся выпускніцы школы Наталлі Сянкевіч. Атрымалі прызы і астатнія ўдзельніцы фіналу — за грацыёзнасць, музыкальнасць, элегантнасць...

Хачу дадаць, што пакуль яшчэ не ўсё было дасканала адпрацавана ў арганізацыі і правядзенні конкурсу. Гэта ж толькі першы вопыт. Але мінчанам конкурс бясспрэчна спадабаўся.



ВЫСТАЎКІ

## УСЁ ДЛЯ БУЛЬБЫ

Слова «ўпершыню» многа разоў гучала ў час адкрыцця ў Мінску міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «Бульба-88», якая прадставіла прадукцыю вядомых фірм свету.

Упершыню месцам правядзення буйнога міжнароднага агляду стаў новы выставачны комплекс Гандлёва-прамысловай палаты БССР. Упершыню ўдзельнічае ў выстаўцы такога профілю вытворчае аб'яднанне «Мінскі трактарны завод імя Леніна». Прадукцыя прадпрыемства шырока вядома на сусветным рынку даўно. Але ў новых эканамічных умовах беларускія трактарабудаўнікі, якія атрымалі магчымасць выходзіць на прамыя сувязі з замежнымі фірмамі, актыўна шукаюць новых партнёраў.

Трэці раз сталіца Беларусі прымае ўдзельнікаў міжнароднай выстаўкі тэхнікі для бульбаводства. На гэты раз усю гаму машын, абсталявання і прыбораў для вырошчвання, уборкі, захоўвання і перапрацоўкі бульбы, аховы культуры ад хвароб і шкоднікаў, прыборы і лабараторнае абсталяванне для селекцыі і насенняводства бульбы прадставілі больш за 70 фірм з 17 краін свету і Заходняга Берліна.

У рамках выстаўкі арганізаваны навукова-тэхнічны сімпозіум.

МАШЫНАБУДАВАННЕ

## ЛУНІНЕЦКАЯ МАРКА

Надзейныя ў эксплуатацыі новыя маторы Лунінецкага завода электрарухавікоў. Яны прызначаны для станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем, якія цяпер у многім вызначаюць навукова-тэхнічны прагрэс у машынабудаванні.

Гэтыя электрарухавікі магутнасцю 2,2 кілавата маюць убудаваныя вентылятары, тахагенератар і тормаз, што дазваляе аўтаматычна рэгуляваць частату абаротаў, ажыццяўляць дакладнае спыненне вала вярчэння. Прычым большасць дэталей навінкі вырабляецца з алюмініевага ліцця і пластмасы.

Цяпер на заводзе выпускаецца звыш 60 мадэлей электрарухавікоў рознай магутнасці, якія знаходзяць шырокае прымяненне ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы.

*ПЕРАД УСЕСАЮЗНЫМ ПЕРАПІСАМ*

# «ЛЮСТЭРКА, У ЯКОЕ ГЛЯДЗІЦЦА ЎСЁ ГРАМАДСТВА І КОЖНЫ З НАС»

Словы, вынесеныя ў загаловак, належаць Льву Талстому. Так вобразна і проста вызначыў ён больш за 100 год назад сутнасць перапісу насельніцтва, у якім сам тады ўдзельнічаў.

У студзені будучага года Савецкі Саюз зможа чарговы раз паглядзецца ў такое люстэрка. Усесаюзны перапіс насельніцтва чакаецца з асаблівай цікавасцю ўсёй грамадскасцю краіны, а тым больш спецыялістамі —эканамістамі і дэмографамі: як-ніяк, а з часу папярэдняга мінула амаль 10 год. Але больш за ўсё павышаная цікавасць звязана з тым, што пачынаючы з сямідзесятых гадоў у СССР была рэзка абмежавана публікацыя статыстычных матэрыялаў, закрыты і аж да 1986 года не публікаваліся, напрыклад, полаўзроставыя паказчыкі смяротнасці насельніцтва, працягласці жыцця, даныя аб смяротнасці немаўлят і г. д.

Першыя крокі ў бок расшырэння інфармацыйнай публічнасці ўжо зроблены.

Публікуемыя даныя даюць падставу сцвярджаць, што дэмаграфічнае становішча ў цэлым змянілася да лепшага. Напрыклад, у 1986—1987 гадах сярэдняя працягласць жыцця, якое прадбачыцца, узрасла ў параўнанні з 1984 годам для ўсяго насельніцтва СССР амаль на два гады. Смяротнасць мужчын працаздольнага ўзросту, у тым ліку ад няшчасных выпадкаў, знізілася на 37 працэнтаў. Вучоныя звязваюць гэта перш за ўсё з ўведзенымі ў 1985 годзе мерамі па пераадоленню п'янства і алкагалізму.

І ўсё-такі нельга не прыслухацца да думкі загадчыка аддзела дэмаграфіі Інстытута сацыялагічных даследаванняў АН СССР доктара эканамічных навук Леаніда Рыбакоўскага: дасягнутае пераацэньваць не варта. Хаця сярэдняя працягласць жыцця ў СССР за апошні год і павялічылася, дасягнуўшы 69,6 года для абодвух полаў, у суседніх Скандынаўскіх краінах, Японіі яна раўняецца 76—77 гадам. Засталіся праблемы, якія патрабуюць рашэння, і ў галіне дзіцячай смяротнасці, узровень якой у СССР па-ранейшаму высокі.

Ёсць у статыстыкаў такое паняцце — «перапісная сям'я». Гэта група людзей, па-першае, якія сумесна пражываюць, па-другое, якія карыстаюцца агульным бюджэтам, а па-трэцяе, звязаны кроўнай роднасцю. Па перапісу 1959 года, у СССР пражывала 50 мільёнаў сямей. У 1979 годзе—ужо 66,3 мільёна. К 1989 году (паводле прагнозу начальніка Упраўлення статыстыкі насельніцтва Дзяржкамстата СССР Аркадзя Ісупава будзе) каля 75 мільёнаў.

Колькасць сямей, такім чынам, расце. Але вось састаў... Два апошнія перапісы далі сярэдні размер сям'і адпаведна 3,7 і 3,5 чалавека. К канцу 70-х гадоў паказчыкі нараджальнасці ў цэлым па краіне ўпалі настолькі, што ўсё больш рэальнай станавілася пагроза дэпапуляцыі, гэта значыць падзення колькасці насельніцтва ў будучыні.

У гэтых умовах у пачатку 80-х гадоў пачаў ажыццяўляцца комплекс мер, накіраваных на дапамогу сем'ям, якія маюць дзяцей. Ён аказаўся эфектыўным. У 1983 годзе колькасць народжаных дзяцей склала 5,4 мільёна (у 1980 — менш за 4,9 мільёна), а ў 1986 годзе і ў 1987-м у СССР на свет з'явілася ўжо па 5,6 мільёна дзяцей.

— Гэта, вядома, поспех, але яшчэ не вырашэнне праблемы, — каменціруе статыстыку доктар Рыбакоўскі. — Калі не ўдасца захаваць прырост колькасці народжаных у наступныя гады, то намаганні, затрачаныя ў гэтым напрамку, акажуцца дарэмнымі. Відавочна, таму, што ўздзеянне на нараджальнасць павінна быць больш разнапланавым. Разам з далейшым павелічэннем водпуску па догляду дзіцяці, расшырэннем прамой матэрыяльнай дапамогі сям'і неабходны, напрыклад, комплекс мер у галіне жыллёвай палітыкі.

Вельмі важна таму, што праграма будучага перапісу, якая істотна адрозніваецца ад папярэдніх, значна зарыентавана менавіта на сям'ю. Напрыклад, сярод традыцыйных пытанняў — пол, дата нараджэння, нацыянальнасць, знаходжанне ў шлюбе, родная мова, адукацыя і да т. п. — будзе сабраны цэлы комплекс звестак аб жыллёвых умовах чалавека, у першую чаргу аб жыллі сямей. Гэта праблема ў СССР — адна з вострых. Прычым вастрыня яе вызначаецца не толькі памерамі жылля — сёння на аднаго жыхара краіны прыпадае ў сярэднім па 15 квадратных метраў агульнай плошчы. Але ў розных рэгіёнах гэта лічба прыкметна вагаецца. Важна не толькі ўдакладніць яе, але і выявіць рэальныя ўмовы жыцця розных сацыяльна-дэмаграфічных груп. Дакладныя звесткі пакажуць, якія сем'і маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў у першую чаргу, ступень развіцця жыллёвай кааперацыі і патрэбу ў ёй.

Адлюстраванне ў маючым адбыцца перапісе знойдуць, зразумела, і такія перамены ў жыцці савецкага грамадства, як, скажам, кааператыўная і індывідуальная працоўная дзейнасць; упершыню за доўгія гады можна будзе дастаткова дакладна даведацца аб ходзе такога [illegible] працэсу, як міграцыя ўнутры краіны. [illegible]ловам, Усесаюзны перапіс насельніцтва 1989 года прадаставіць поўныя агульнадаступныя даныя, якія стануць асновай для глыбокага ўсебаковага аналізу сацыяльнага развіцця савецкага грамадства, перадумовай вырашэння многіх важных праблем.

**Алена УЛАДЗІМІРАВА.**
(АДН).

НОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

# АБРОЦЬ НА НІТРАТЫ

**Пры ўдзеле вучоных АН БССР і спецыялістаў Брэсцкага аблагрaпрома ствараецца першая ў рэспубліцы аўтаматызаваная дыягнастычная сістэма па вызначэнню шкодных для чалавека рэчываў.**

Нітраты — гэта атрута, татальны прэсінг на арганізм, канцэрагенныя рэчывы. Так айчынны і замежны друк называе сёння баластныя азотныя рэшткі. Як вядома, у глебу і сельскагаспадарчыя расліны яны трапляюць з мінеральнымі ўгнаеннямі, назапашваюцца там і з прадуктамі харчавання трапляюць у наш арганізм.

Гарачыя галовы патрабуюць: спыніць унясенне азоту. Але доследы вучоных усяго свету пацвердзілі: гэта не выйсце. Імгненна падае ўраджайнасць, і можа здарыцца так, што для многіх людзей не хопіць харчавання. Ды і не сам па сабе азот шкодны. Небяспечныя яго лішкі, што застаюцца ў глебе і раслінах і па харчоваму ланцужку трапляюць на наш стол. Чаму ж узнікаюць непатрэбныя рэшткі? З-за традыцыйнага, жывучага ўяўлення аграрнікаў: кашы маслам не сапсуеш. Вось і сыплюць аграномы азоту чым пабольш, чакаюць рэкордных ураджаяў. Але і на расліны ў апошні час лішні азот дзейнічае прыгнятальна, разбурае ўрадлівы слой глебы.

Таму вучоныя Акадэміі навук СССР, Усесаюзнай сельскагаспадарчай акадэміі з актыўным удзелам нашай рэспубліканскай Акадэміі навук і адной з фінскіх фірм прапанавалі выкарыстаць аўтаматызаваную сістэму дыягностыкі глебы. Яна дапаможа не толькі пазбавіцца ад нітратаў і іншых шкодных рэчываў, але падкажа агроному, як палепшыць сілкаванне раслін, якія ўгнаенні ўносіць, а якія не трэба.

Поспеху садзейнічае поўная аўтаматызацыя ўсіх працэсаў ад адбору грунту да апрацоўкі даных на персанальных камп'ютэрах. Затым у абласных цэнтрах у памяць буйной ЭВМ закладваецца банк даных па кожнаму калгасу і саўгасу, сельскагаспадарчаму ўчастку. Сістэма не толькі падкажа аграному, чаго не хапае на палетках, але аператыўна дапаможа праверыць яго самога на гаспадарлівасць. Выправіўшы спецыяліст памылкі ці толькі справаздачы добрыя складае?

Выкарыстанне навінкі на працягу двух апошніх гадоў у дзвюх абласцях РСФСР, Літве і Латвіі на плошчы 1 мільён 22 тысячы гектараў дало прырост збожжа — 227 тысяч тон і прыбыткаў 30 мільёнаў рублёў у пераліку на сусветныя цэны. Затраты ж на яе асваенне склалі ўсяго чатыры мільёны рублёў. Сёлета дыягнастычная сістэма пачала працаваць на Брэстчыне. З яе дапамогай абследаваны азімы клін многіх гаспадарак, вызначаны стан раслін, хваробы глебы і выдадзены дакладныя, навукова абгрунтаваныя рэкамендацыі па дыферэнцыраванай азотнай падкормцы.

На нітраты накідваецца аброць. Аптымальныя парады сістэмы абавязковыя для кожнага агранома. З гэтай мэтай у Брэ[illegible]адкрываецца філіял Цэнтральнага эканоміка-матэматычнага інстытута АН СССР.

Акадэмія навук БССР, у сваю чаргу, адкрые ў гэтым абласным цэнтры аддзяленне Інстытута тэхнічнай кібернетыкі.

— Без моцнай навуковай базы, — сцвярджае віцэ-прэзідэнт АН БССР, акадэмік І. Ліштван, — мы скампраметуем ідэю, не пазбавімся ад нітратаў, не павысім ураджайнасць.

П[illegible]ь у Брэсце ўтрасаюцца арганізацыйныя пытанні, асноўн[illegible]джкар узялі на сябе базавыя акадэмічныя інстытуты — матэматыкі, тэхнічнай кібернетыкі, глебазнаўства і аграхіміі рэспубліканскага Дзяржаграпрома. Яны рыхтуюць спецыяльныя праграмы для ЭВМ, якія будуць закладзены ў камп'ютэры і прааналізуюць стан глебы кожнага поля па дзесятках параметраў, дадуць аграрнікам надзейны компас атрымання высокага, чыстага ўраджаю.

**Аляксандр ШАГУН.**

*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# СІЛА КАЛЕКТЫЎНАЙ ДУМКІ

Калектыў гродзенскай фабрыкі «Дынама» доўгі час лічыўся стабільным, дзе ўсё ідзе ладам, дзе парадак і размераны рытм жыцця. І раптам пачалася чорная паласа: зрывалася выкананне вытворчага задання. Дырэкцыя разгубілася, хапалася за тое, за сёе, але не здолела выправіць становішча. Рэспубліканскі савет «Дынама», якому падпарадкоўваецца прадпрыемства, прапанаваў зняць з пасады дырэктара, замяніць яго іншым. Але нечакана супраць выступілі рабочыя і інжынеры фабрыкі. Яны параілі не спяшацца. Не адзін дзесятак гадоў, многа сіл, энергіі, здароўя аддаў дырэктар фабрыцы, а тут менш чым за год да пенсіі вось так проста і развітацца з чалавекам, можна сказаць, выкінуць яго... Ці ж гуманна гэта? Акрамя таго, людзі не вельмі верылі, што простая змена кіраўніка хутка дапаможа: пакуль яшчэ новы чалавек разбярэцца, уцікне... І калектыў вырашыў сам прааналізаваць, што перашкаджае яму паспяхова працаваць.

Няпроста было дакапацца да ісціны. Не прывыклі яшчэ многія рабочыя мысліць катэгорыямі гаспадара прадпрыемства. Рэакцыя ўвогуле заканамерная. У так званы застойны перыяд хіба хто звяртаўся да іх як да дарадцаў па сур'ёзных пытаннях?

Але ж паступова разварушыліся людзі, у шчырых і вострых гутарках можна было пачуць не толькі рэзкую крытыку недахопаў, але і канструктыўныя прапановы, цікавыя думкі, ідэі. Высветлілася: рабочыя лічаць, што галоўныя прычыны зрыву былі ў той атмасферы задаволенасці дасягнутым, самазаспакоенасці, што панавала на фабрыцы апошнім часам.

У калектыва абудзіліся гонар, здаровае самалюбства, жаданне самастойна пераламаць ход падзей, не чакаць загаду «зверху». І гэта яму ўдалося! Зноў на фабрыцы былі дасягнуты высокія вытворчыя паказчыкі, нават лепшыя, чым раней, а неўзабаве ўрачыста і з гонарам, як і належыць, праводзілі на пенсію дырэктара-ветэрана.

Сёння ў горадзе складваецца якасна новая сітуацыя ў вытворчых калектывах. Закон аб дзяржаўным аб'яднанні (прадпрыемстве), пераход на гаспадарчы разлік і самафінансаванне, шырокі працэс дэмакратызацыі ў грамадстве спрыяюць больш актыўнаму, сапраўднаму, а не фармальнаму ўдзелу рабочых і служачых у кіраўніцтве заводам, фабрыкай, установай.

Як, бывае, разважае іншы кіраўнік-кансерватар? Быць сярод лепшых — вялікі клопат, бо тады не толькі хваляць, але і чакаюць новых дасягненняў, прад'яўляюць павышаныя патрабаванні. Адставаць — таксама не будзе спакойнага жыцця. Лепш за ўсё — у сярэдзіне. Не хваляць, але ж і не крытыкуюць. Зразумела, у гэтай сярэдзіне ёсць і тыя, хто працуе добрасумленна, аднак без ініцыятывы, без душы. Такія людзі нібы ўсё яшчэ прыглядаюцца да перабудовы, па звычцы чакаюць указанняў.

Сёння надзвычай актуальным з'яўляецца пытанне аб адказнасці кіраўнікоў за свае калектывы. Нежаданне некаторых з іх зазірнуць у дзень будучы асабліва выразна праявілася летась, у час падрыхтоўкі да работы ва ўмовах самафінансавання і гаспадарчага разліку.

Нядаўна давялося чуць папрокі дырэктару завода карданных валоў у Гродне У. Асіпку. Уладзімір Іосіфавіч, трэба сказаць, належыць да тых, хто складае залаты фонд кадраў. Дзелавы, энергічны, ён здолеў наладзіць работу ў новых умовах. Дзякуй яму за гэта сказалі рабочыя. Але ўсё ж выказалі Асіпку папрок: не хапае цвёрдасці і прынцыповасці ў адносінах з міністэрствам. Пэўна, таму прадпрыемству ад зарабляемага ім прыбытку на ўласныя патрэбы пакінулі мізэр, на які неабходнае тэхнічнае пераўзбраенне завода можна завяршыць не раней, чым праз 20 гадоў. Вельмі мала адлічана і на сацыяльнае развіццё.

Крытыкавалі і А. Сямёнава, дырэктара гродзенскага аб'яднання «Хімвалакно». Ён з-за баязлівасці сапсаваў адносіны з начальствам пагадзіўся ўстанавіць устарэлае абсталяванне на прадпрыемстве.

Што затым змянілася? Крытыка падзейнічала. Сёння знойдзена рашэнне і ёсць упэўненасць, што хімікам не давядзецца працаваць на абсталяванні ўчарашняга дня. У. Асіпок таксама дабіўся перагляду нарматыўных адлічэнняў ад прыбытку на карысць свайго калектыву.

Безумоўна, цэнтральная фігура перабудовы — чалавек, і ад яго залежыць поспех пераўтварэнняў, якія зараз адбываюцца.

Пад уплывам сваіх калектываў многія кіраўнікі задумваюцца, як пазбегнуць у паўсядзённай практыцы тэхнакратычнага падыходу да кадраў, калі на першым плане аказваюцца гаспадарчыя праблемы і эканамічныя паказчыкі, а чалавек разглядаецца як сродак дасягнення пэўнай мэты. Таму на некаторых прадпрыемствах яшчэ раз перагледзелі перспектыўныя планы работы, дапоўнілі іх дэталёвымі праграмамі ажыццяўлення канкрэтных сацыяльных праблем: паляпшэння арганізацыі працы і быту, жыллёвых умоў людзей, добраўпарадкавання тэрыторыі і інш. А каб набыць пэўны вопыт, многія адміністратары наведалі аўтапарк № 2, дзе эканамічныя праблемы паспяхова вырашаюцца менавіта праз усебаковае, прадуманае да драбніц развіццё сацыяльнай сферы.

За апошнія гады тут пабудаваны спецыялізаваны комплекс па замене агрэгатаў вялікагрузных аўтамабіляў, гарачая мыйка, аддзяленне для рамонту мастоў і каробак перадач, стаянка аўтамабіляў КамАЗ з паветрападагрэвам, з узвядзеннем якіх узровень механізацыі працы дасягнуў 95 працэнтаў. Створаны музей працоўнай славы, ёсць свая кіназала, дзе ў абедзенны перапынак дэманструюцца кінафільмы, бясплатная чайная для рабочых, сучасны спартыўны комплекс. Пабудаваны рэпетыцыйныя залы для калектываў мастацкай самадзейнасці, абсталяваны новы сацыяльны комплекс, які ўключае актавую залу, плавальны басейн і медыцынскі пункт. Ёсць і падсобная гаспадарка, клуб, стралковы цір. Рабочыя ганарацца сваім прадпрыемствам.

Згода паміж людзьмі, адзінства ў імкненні лепш працаваць, а значыць і жыць лепш—вось тая вечная крыніца, з якой чэрпаюцца агульныя сілы для дасягнення поспеху.

**Леанід СЛАБАДА.**

## НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ

# «ЧЫРВОНЫ» З КАНАДСКАГА ЛОНДАНА

З Афанасіем Баравым мы сустрэліся ўпершыню, хаця наша завочнае знаёмства пачалося чатыры гады назад. Тады ў рэдакцыю прыйшло яго пісьмо, у якім ён дзяліўся думкамі аб наведанні Беларусі. Пачыналася пісьмо з выразнага загалоўка: «На Радзіме праз сорак год».

Яно было апублікавана ў газеце, і з таго часу Афанасій Баравой стаў нашым пастаянным карэспандэнтам.

— Вашу газету я атрымліваю ўжо многа год. Чытаю яе ўважліва, гэта ж навіны з роднай Беларусі, — пачаў гутарку Афанасій Ціханавіч. — Нярэдка ў ёй друкуюцца і ўражанні суайчыннікаў з розных краін аб іх паездках сюды. Вядома, іх я чытаў з асаблівай цікавасцю, хаця і не заўсёды верыў таму, што было напісана. Вельмі хацелася пабываць на Радзіме самому, ды ўсё не ўдавалася. Не хапала сродкаў.

Афанасій Баравой трапіў на чужыну ў час вайны. Фашысты вывезлі яго на прымусовыя работы ў Германію. Пасля вайны апынуўся ў Канадзе, там ажаніўся, з'явіліся дзеці. Сям'ю Баравых жыццё не песціла. Многія гады Афанасій Ціханавіч і яго жонка Вольга Мікалаеўна працавалі на часовых работах, што дзе падвернецца. І толькі за некалькі год да выхаду на пенсію яны атрымалі пастаянныя месцы. Вольга Мікалаеўна стала працаваць у швейнай майстэрні шпіталя, потым дапамагла ўладкавацца туды прыбіральшчыкам і мужу. Трэба было гадаваць дзяцей, даць ім адукацыю, разлічвацца за куплены ў крэдыт дом. Так што ні аб якіх паездках не магло быць гаворкі. Але мара пабываць на Радзіме не пакідала. І вось дзеці цвёрда сталі на ногі, пагашаны ўсе пазыкі, надышла пенсія. У 1980 годзе з турыстычнай групай Федэрацыі рускіх канадцаў пабывала ў Савецкім Саюзе Вольга Мікалаеўна. Праз чатыры гады паехалі ўжо ўдваіх. Тая паездка зрабіла на Афанасія Баравога такое моцнае ўражанне, што прымусіла напісаць пісьмо ў рэдакцыю.

— Пасля таго, як гэта пісьмо і фатаграфія, дзе мы стаім побач з абаронцам Брэсцкай крэпасці Іванам Рудчыкам, былі апублікаваны, маё жыццё ў многім змянілася, — працягваў Афанасій Ціханавіч. — Мы жывём у Лондане. Але гэта не сталіца Вялікабрытаніі, а невялікі гарадок непадалёку ад Таронта. У ім пасялілася нямала сямей выхадцаў з Савецкага Саюза. Мы, у асноўным, знаёмы адзін з адным. Але я і не ведаў, што вельмі многія атрымліваюць і чытаюць вашу газету. Не ведаў і таго, што суайчыннікі так па-рознаму настроены. Адны сталі мяне пазбягаць, другія, наадварот, часцей сустракацца са мной, раіцца па розных пытаннях. Пазней адзін мой знаёмы расказаў, што калі ў Лондане прачыталі газету, то ўсе пачалі абменьвацца думкамі і некаторыя гаварылі, што Афанасій, аказваецца, «чырвоны», такога панапісваў ды яшчэ і сфатаграфаваўся побач з камуністам. Не ведаю, «чырвоны» я ці не на самай справе, але гэтая мянушка не крыўдзіць мяне, і я нават ганаруся ёю. Камуністам я ніколі не быў, але Радзіму любіў заўсёды. Напісаў я праўду аб убачаным. А праўда ў тым, што наша Радзіма, нягледзячы ні на што, дабілася вялікіх поспехаў. Вядома, і ў вас ёсць недахопы. А дзе іх няма? Дрэнна тое, што раней пра іх маўчалі і гэта было на руку вашым праціўнікам. Цяпер пра ўсё гавораць адкрыта, усе думаюць, як ад гэтых недахопаў пазбавіцца. Але вельмі моцныя яшчэ ў вашым грамадстве бюракраты.

Афанасію Ціханавічу самому давялося сутыкнуцца з бюракратыяй. На гэты раз сям'я Баравых прыехала ў Савецкі Саюз па індывідуальнаму туру. У Мінску спыніліся на дванаццаць дзён спецыяльна для таго, каб сустрэцца са шматлікай раднёй. Спадзяваліся і самі з'ездзіць да сваякоў у Гомельскую вобласць. Але тыя так і не змаглі афармiць запрашэнне: адзін начальнік адсылаў іх да другога, той да трэцяга і г. д. У Аддзеле віз і рэгістрацыі (АВІР) Упраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкома, куды мы з Афанасіем Ціханавічам звярнуліся з просьбай дазволіць такую паездку, нас папрасілі яшчэ раз праз газету напомніць усім замежным суайчыннікам, што такі дазвол лепш за ўсё афармляць загадзя ў савецкім консульстве да паездкі, таму што цяпер значна ўзрасла колькасць савецкіх грамадзян, якія едуць за мяжу па прыватных справах, і замежных грамадзян, якія прыязджаюць у госці да сваякоў, і работнікі АВІРа проста не паспяваюць аформіць неабходныя дакументы ў кароткі тэрмін. Але дазвол, у парадку выключэння, Афанасію Баравому далі хутка.

— Цяпер і я змог пераканацца, што перабудова ў вас сапраўды адбываецца, — пажартаваў Афанасій Ціханавіч.

Мы дамовіліся сустрэцца яшчэ раз пасля таго, як сям'я Баравых вернецца ад родных са Светлагорска. У прызначаны час мяне сустрэў адзін Афанасій Ціханавіч.

— Дзе ж Вольга Мікалаеўна? — пацікавіўся я.

Ён усміхнуўся і сказаў, што яна яшчэ не вярнулася з царквы, куды ходзіць кожны дзень. Моліцца за дзяцей, за родных, дзякуе богу за гэтую паездку на Радзіму. Аказалася, што і Афанасій Баравой таксама веруючы, хоць і не такі заўзяты, як жонка, але час ад часу наведвае царкву. Быў на службе і ў мінскім кафедральным саборы.

— Наша царква ў Лондане ў параўнанні з ім проста бедная, — сказаў ён. — А наш жа святар, уехаць ніколі не мог у Савецкі Саюз, тым больш, што ў Савецкім Саюзе веруючых прыгнятаюць, што храмы ў бядотным стане. Няхай бы сам прыехаў і паглядзеў.

Гэтыя словы чула і Вольга Мікалаеўна, якая ўжо вярнулася.

— Гэта праўда, — пацвердзіла яна. — Гавораць яшчэ многа нядобрага пра вашу краіну. Але вось я хаджу ў царкву кожны дзень, і ніхто мне ні разу не перашкодзіў. Там размаўляла з многімі жанчынамі, і ніводная не скардзілася на які-небудзь уціск. Гавораць, што, наадварот, цяпер дзяржава перадае ўсё больш храмаў царкве. Ды мы і самі бачылі па тэлевізару, як царкоўнае кіраўніцтва прымаў Міхаіл Гарбачоў, ведаем, што 1000-годдзе прыняцця хрысціянства на Русі адзначаюць не толькі веруючыя, але і ўся краіна.

— Што гаварыць, — уздыхнуў Афанасій Ціханавіч. — Пра Савецкі Саюз заўсёды расказвалі розныя недарэчнасці. І сам я многаму верыў, пакуль не прыехаў сюды і не ўбачыў, што ўсё не так. Цяпер вашы перабудова і публічнасць, палітыка Міхаіла Гарбачова, перагаворы з ЗША значна змянілі адносіны да вашай краіны на Захадзе. Сталі гаварыць больш праўды, але ўсё ж стараюцца, дзе ёсць магчымасць, укусіць. Вось, напрыклад, аварыя ў Чарнобылі. Называліся страшныя лічбы ахвяр. Вядома, гэта вялікая трагедыя і для вашай краіны, і для ўсяго чалавецтва. Але ж маштабы яе зусім іншыя. Не ўдалося выратаваць дваццаць восем чалавек. А ці змагла б якая іншая дзяржава затраціць столькі сіл і сродкаў на ліквідацыю вынікаў аварыі, праявіць такі клопат пра людзей? У нас паведамляюць, што людзі з зоны аварыі змешчаны ў рэзервацыі за калючым дротам, знаходзяцца там пад аховай і іх нікуды не выпускаюць. Па дарозе да пляменніцы ў Светлагорск мы праехалі праз маю родную вёску Красноўка. Там пабудаваны цэлы пасёлак для людзей, выселеных з зоны аварыі. Жывуць яны ў выдатных новых дамах, атрымалі вялікую грашовую дапамогу, працуюць, як і ўсе астатнія, і зусім свабодныя.

— Вось мы і загаварылі аб вашай паездцы да родных. Раскажыце пра яе больш падрабязна.

— Не атрымаецца, — засмяяўся Афанасій Ціханавіч. — Тады прыйдзецца пісаць цэлую кнігу. Завёз нас у Светлагорск на сваёй машыне муж пляменніцы. Я ўжо гаварыў, што заехалі ў маю родную вёску. Вядома, нічога не пазнаў, але хоць падыхаў родным паветрам. Ад Светлагорска гэта зусім блізка. Некалі я добра ведаў тыя мясціны, не раз бываў і ў вёсцы Шацілкі. І вось цяпер тут вырас вялікі сучасны прамысловы горад. Ну, а далей не ведаю, як і расказваць. Сустрэў нас цэлы натоўп людзей. Чалавек трыццаць. І ўсе мае сваякі. Тры мае сястры, іх дзеці і ўнукі. Пакуль пабывалі хаця па пару гадзін ва ўсіх, час і прайшоў. Гэтыя два дні зліліся ў адно вялікае свята. У кожным доме гаспадыні стараліся і сустракалі гасцей так, што сталы гнуліся. З усімі гаварылі пра жыццё. Тут усяго не перасказаш, у кожнага яно сваё. Але я бачыў, што пляменнікі і пляменніцы жывуць у добрых кватэрах, у асноўным трохпакаёвых. У нас за такую бяруць каля васьмісот долараў у месяц. Усе маюць адукацыю. Хто скончыў інстытут, хто тэхнікум. Працуюць і ўсе зарабляюць нядрэнна. Жыццё нармальнае. Хоць самі яны не ўсім задаволены. Лічаць, што многае яшчэ трэба перарабіць, вельмі горача гаварылі пра перабудову. Мяне парадавалі іх расказы аб тым, што і самі яны на сваіх рабочых месцах стараюцца рабіць усё, каб перабудова стала незваротнай і прынесла хутчэйшыя вынікі. Словам, я шчаслівы, што нам удалося здзейсніць гэтую паездку, пабываць у нашых сваякоў, акунуцца ў іх жыццё. Уражанняў вельмі многа, і патрэбны час, каб яны аселі. Вядома, буду пра ўсё расказваць дома, напішу і вам у газету. Няхай лічаць, што Афанасій «чырвоны», але я буду гаварыць праўду пра вашу краіну. Няхай яе ведае, як мага больш людзей.

**Рыгор ФАМЕНКА.**



**НА ЗДЫМКУ: Афанасій БАРАВОЙ з жонкай Вольгай Мікалаеўнай у Мінску.**

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# ЧАСЦІНКА НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Дарагія сябры!

Днямі мы, суайчыннікі ў ЗША, будзем адзначаць вялікую падзею ў культурным жыцці амерыканскай славянскай грамадскасці — 40-годдзе Араў-парку. Гэты культурны і курортны цэнтр, заснаваны на сродкі эмігрантаў, ужо многа год з'яўляецца для нас часткай Радзімы, хаця і размешчаны за тысячы кіламетраў ад яе і ўсяго толькі за некалькі кіламетраў ад Нью-Йорка — горада-сімвала капіталістычнага свету. Для нашай сям'і, як і для сем'яў многіх нашых сяброў, Араў-парк дарагі таму, што адыграў вялікую ролю ў нашым жыцці. Стварала яго пакаленне нашых бацькоў. Натуральна, што ў паездкі ў парк яны бралі і сваіх дзяцей. Многія прыязджалі з іншых гарадоў. Мы дапамагалі наводзіць парадак на тэрыторыі, разам працавалі, разам адпачывалі. Так многія юнакі і дзяўчаты пераэнаёміліся і стварылі славянскія сем'і. Мы і раней актыўна ўдзельнічалі ў рабоце прагрэсіўных клубаў суайчыннікаў, падтрымлівалі іх. Часта там збіралася моладзь. Але тут, у Араў-парку, маладыя людзі са славянскіх сем'яў розных гарадоў сталі нібыта бліжэй адзін да аднаго. Калі працуеш поплеч з сябрам, то лепш даведваешся пра яго, разумееш яго думкі і жаданні.

Калі суайчыннікі купілі Араў-парк, быў час макартызму і нашым клубам станавілася ўсё цяжэй працаваць, збірацца там, асабліва маладым людзям, стала небяспечна. А ў Араў-парку мы маглі без перашкод працаваць, збірацца і працягваць нашу культурную дзейнасць. Тут, у гэтым прасторным парку, дзе прыгожая прырода, вялікае возера, чыстае паветра, мы пачалі думаць і пра будучыню сваіх дзяцей. Яны вучыліся роднай мове і таксама знаёміліся адзін з адным. Мы ўпершыню прывезлі туды сваю дачку, калі ёй было шэсць тыдняў. Цяпер яна дарослая і лічыць Араў-парк другім домам.

Былі ў нас, маладых, і свае цяжкасці. Людзям старэйшага пакалення хацелася спакою, а мы пасля работы хацелі гуляць і весяліцца. Але паступова ўсё ўладкавалася. Мы стварылі маладзёжны «Грамадскі клуб», які арганізоўваў розныя мерапрыемствы і заняткі мастацкай самадзейнасцю. Часта давалі канцэрты. І не толькі ў Араў-парку, але ездзілі і па іншых гарадах. За гэта атрымлівалі грошы, на якія стварылі дзіцячы сад, пабудавалі пляж для малых, дзе яны маглі купацца, а мамы не хваляваліся, што дзіця трапіць на глыбіню. Нягледзячы на тое, што ва ўсіх нас былі маленькія дзеці, мы ўсё-такі працягвалі працаваць у арганізацыі. Дапамагалі то ў кіёсках на пляжы, то ў рэстаране, усюды, дзе гэта было трэба. І не думалі пра тое, каб нам плацілі за гэтую работу. Хто-небудзь адзін прыглядваў за дзецьмі, а астатнія працавалі. Дружба была добрая, і было вельмі весела. Да нас прыязджалі на вялікія святы суайчыннікі з многіх гарадоў і з Канады, так што ў парку заўсёды было шмат людзей. І не толькі летам, але і зімой мы наладжвалі вялікі «Зімні фестываль». Для многіх суайчыннікаў у ЗША Араў-парк — гэта часцінка нашага жыцця. Менавіта таму ён такі дарагі нам. Наша пакаленне пастарэла, нам ужо цяжка працаваць, але мы стараемся, каб на наша месца стала моладзь і жыццё Араў-парку працягвалася.

**Вольга КЛІМОВІЧ.**

ЗША.

# UN DESVELO PARTICULAR

En 1939, por decisión del Gobierno, se inauguró en Minsk una pinacoteca nacional del Estado, en la que estaban exhibidas las mejores obras del arte de la República. Pero a dos años de existencia, fue totalmente saqueada por los ocupantes nazis durante la guerra. Todas las muestras valiosas (cerca de 10.000) fueron llevadas a la Alemania fascista. Hasta ahora no se han recuperado trabajos de muchos maestros de pincel bielorrusos, trabajos que podrían catalogarse entre las mejores obras de las artes plásticas del mundo.

No obstante, la Galería volvió a funcionar ya en 1945. Las repúblicas federadas hermanas ayudaron a Bielorrusia entregando a la Galería de Minsk parte de los fondos de sus museos. En 1957 recibió el status de Museo Estatal de las Artes de Bielorrusia y, en breve, inauguró sus filiales en las capitales provinciales de la República.

Hoy, todos los días, casi mil personas visitan el museo. Sus depósitos cuentan con más de 19 mil obras reunidas en doce colecciones: las de Europa Occidental, las del arte clásico ruso y las del periodo soviético. En el museo hay obras de Repin, Venetsiánov, Aivazovski, Briullov, Perov, Makovski, Savrásov, Polénov y demás insignes pintores de nuestra patria. Los autores de la mayor parte de las muestras son artistas nacidos en Bielorrusia, que han formado su escuela artística de pronunciados rasgos nacionales. Merecen especial mención naturas muertas, interiores y retratos de Jrutski, paisajes de Zhukovski, así como las obras de otros pintores, grabadores, escultores y maestros de las artes aplicadas y teatral como Azgur, Anikéichik, Bémbel, Vólkov, Váschenko, Savitski, Poplavski...

Las ricas tradiciones de las artes plásticas bielorrusas las continúan desarrollando toda una pléyade de jóvenes artistas de talento, cuyas obras gozan de popularidad tanto en nuestro país como en el exterior. Los jóvenes tienden a ampliar el diapasón ideológico-temático; han renunciado a la manera narrativa y a la pintura de género; aspiran a desarrollar la artística, a generalizar y concebir filosóficamente la realidad. Los fondos del Museo se completan anualmente con unos 150 lienzos de pintores contemporáneos, que se compran por el Estado.

Se presta gran atención al estudio y la conservación de las obras maestras, a la propaganda de la artes plásticas. Con este fin se organizan excursiones, exposiciones, conferencias, etc. Esta labor se lleva a cabo no solamente en el mismo museo sino también en las empresas industriales, en los koljoses y sovjoses. Continuamente funciona un centro de conferencias públicas. De modo que, todos los años, el museo atiende a unas 500.000 personas por medio de distintas formas de actividades. Se organizan, por ejemplo, casi mil excursiones anuales para los escolares, que son consideradas como parte del programa educacional. Para los niños de las zonas rurales se organizan conferencias *in situ*, acompañándolas con la proyección de diapositivas.

Otra forma del trabajo son círculos de interés y clubes infantiles. Se convirtieron en cierto tipo de laboratorio donde los especialistas del museo pueden estudiar cómo perciben los niños las obras artísticas.

Los filiales del museo — como el Museo del Arte Popular de Bielorrusia, en la aldea Ráubichi (cerca de Minsk); el Museo Artístico conmemorativo de Bialinitski-Birulia, en Moguiliov; y la Pinacoteca distrital de Mózir, en la aldea Gurini — desempeñan gran papel en la propaganda de las artes plásticas en la República. En estos últimos años, los trabajadores del museo y de sus filiales organizaron exposiciones ambulantes en muchas ciudades de la URSS y en el exterior; en Finlandia, Grecia, Checoslovaquia, Sri Lanka, la India, Bulgaria, Italia, la RFA y Polonia.

Actualmente, junto con Minsk, otras 21 ciudades se catalogan entre las "conservadoras de las antigüedades artísticas e histoóricas" entre ellas: Nésvizh, Moguiliov, Mstislavl, Gómel, Túrov, Vítebsk, Pólotsk, Grodno, Novogrúdok.

En la URSS se ha creado un sistema estatal único de protección de los monumentos históricos y culturales, cuyo número asciende a 14.500 sólo en territorio de Bielorrusia. Ya en los primeros años del Poder Soviético, a iniciativa y con la participación directa de Vladímir Ilich Lenin, el Gobierno del joven Estado aprobó varios decretos, resoluciones y disposiciones sobre la protección de las obras maestras artísticas, que pasaron a ser patrimonio de todo el pueblo.

Desde 1976 rige en la URSS la Ley sobre la protección y el uso de monumentos históricos y culturales, que les hace cargar con una rigurosa responsabilidad a las organizaciones, funcionarios y particulares por garantizar la conservación de los valores históricos y culturales. La Ley establece, asimismo, la actitud positiva del Estado soviético respecto al intercambio cultural internacional.

Todas las cuestiones relativas a la protección de los monumentos históricos y artísticos en Bielorrusia están a cargo del Ministerio de Cutlura y otros organismos estatales correspondientes de la República. Adjuntos al Ministerio, funcionan talleres que, con base en los métodos científicos, se dedican a conservar y restaurar lienzos, monumentos y edificios que tienen valor artístico. Han sido restaurados: la Catedral de Santa Sofía en Pólotsk, la capilla de los Paskévich en Gómel, la casa de Eliza Orzeszkova en Grodno, como asimismo el Castillo Minsk, la casa del compositor Oguiñski, etc.

En Bielorrusia se lleva a cabo un constante trabajo enfilado a sistematizar todos los materiales relativos a los museos. Se han redactado y publicado siete tomos del "Código de monumentos históricos y culturales de Bielorrusia", que echó las bases para el futuro trabajo propagandístico y de protección de los monumentos históricos, arquelógicos, urbanísticos, arquitectónicos y artísticos, y para el quehacer museológico.

Constituida sobre los principios de voluntariedad, la Sociedad bielorrusa de protección de museos y monumentos históricos y culturales desempeña un importantísimo papel en la conservación de esta enorme riqueza nacional. Es una de las organizaciones sociales más numerosas de la República y agrupa a 1.750.000 entusiastas. Los miembros de la Sociedad efectúan una gran labor propagandística entre la pablación. 2.300 activistas dictan regularmente conferencias sobre la historia de las bellas artes, sobre la arqueología, la arquitectura, la etnografía, etc. La Sociedad edita folletos, carteles y boletines, emite filmes, y tiene su propia publicación periódica.

**Vladímir URODNICH,**
**jefe del sector de artes plásticas, del Ministerio de Cultura de Bielorrusia**

# TRABAJO Y SUPERACION PROFESIONAL

En las empresas de Bielorrusia trabajan cerca de tres millones de obreros, el 40 % de los cuales pasa anualmente por la superación profesional obteniendo oficios nuevos.

La mayor parte de los egresados de la secundaria básica ya posee un oficio que les dan combinados de aprendizaje llamados a servir varias escuelas a la vez. Sin embargo, éstos no están en condiciones de considerar la especificidad de todas las empresas en que trabajarán los egresados, de abarcar a los 3.500 oficios existentes. Por ello, cada uno quien venga a trabajar en la fábrica es patrocinado por un instructor (mentor) de aprendizaje profesional. Se trata de obreros muy experimentados que son duchos también en la pedagogía y sicología. Estos conocimientos los obtienen en las universidades de educación moral que funcionan en las empresas. El instructor ayuda al novato a dominar el oficio y a adaptarse al colectivo.

Para que el instructor dedique al educando el tiempo necesario y no piense que no cumpla su propio plan (lo que disminuiría su salario), la empresa le paga el promedio mensual. En cuanto al aprendiz respecta, éste percibe un sueldo mensual garantizado más lo que gana durante el período de aprendizaje por fabricar artículos útiles.

Todos los años, más de 76 mil egresados de las escuelas técnico-profesionales (ETR) vienen a trabajar a las empresas de Bielorrusia. A diferencia de los que terminan la secundaria básica, dominan un oficio y conocen las condiciones de producción. La mayoría de las empesas republicanas tiene sus propias ETP. El número total de éstas llega en Bielorrusia a 233 y casi siempre las clases prácticas se realizan directamente en el taller donde trabajarán jóvenes obreros.

Los que no tienen enseñanza media la obtienen mientras estudian en la ETP y aquellos que la poseen, además de aprender un oficio, conocen los fundamentos del Derecho, de la Economía Política y la Estética.

Además de la beca estatal, todos los alumnos perciben pluses especiales pagados por la empresa en que van a trabajar. Mientras pasan las prácticas en la empresa su salario se calcula a base de las mismas tarifas que para los obreros de plantilla.

Al terminar los estudios, los alumnos rinden los exámenes y defienden la tesis de fin de carrera y después son enviados a la empresa para trabajar allí según el oficio adquirido.

Por perfectos que sean los hábitos profesionales, se envejecen con el correr del tiempo porque aparecen equipos y tecnologías más modernos y las empresas empiezan a fabricar una producción nueva, lo cual requiere nuevos conocimientos y experiencia. En la mayoría de los casos éstos se obtienen en la misma empresa. En las fábricas existe todo un sistema de formación profesional y recapacitación: distintos cursillos, escuelas y seminarios, que sirven para elevar la calificación, dominar métodos progresistas de trabajo, obtener profesiones nuevas y contiguas y conocer tecnologías modernas...

Las clases, efectuadas en aulas provistas del material didáctico y los medios técnicos necesarios, corren a cargo de instructores y contramaestres experimentados. Además, los mejores especialistas de la empresa dictan conferencias sobre el desarrollo de la producción y de los logros más recientes en un campo específico de la técnica.

Obreros y jefes de brigada pueden optar por la forma de superación profesional que más les convenga o asistir a varios cursillos, porque éstos no repiten unos a otros sino se complementan. Así, un ajustador o tornero, que quiere recibir una categoría más alta, frecuenta las conferencias de la técnica general, analiza, ayudado por un ingeniero, las tareas concretas vinculadas a su oficio. Simultáneamente, puede conocer los métodos progresistas de trabajo en una escuela, donde su compañero más experimentado le da a conocer los hábitos profesionales más racionales, y, junto con él, va indagando las vías conducentes a usar los conocimientos teóricos obtenidos. Si un obrero integra una brigada mixta, donde se necesita dominar varias profesiones, entonces se sienta de nuevo al pupitre. Las aulas se encuentran al lado y por el aprendizaje no paga nada, porque lo sufraga la empresa.

Cuando una fábrica necesita obreros de oficios muy deficitarios, ésos son enviados a las ETP intersectoriales o a los cursillos patrocinados por las empresas que fabrican equipos e instrumentos muy complicados. Mientras estudia en los cursillos, el obrero cobra su salario promedio, y cuando vuelve a trabajar, le aumentan el salario.

Si la empresa necesita obreros que tengan conocimientos prácticos y teóricos más profundos, entonces envía a sus becados a un centro docente superior o medio especializado.

**Vasili ZHUKOVSKI,**
**encargado del departamento de formación y recapacitación de cuadros, del Comité Estatal del Trabajo de Bielorrusia**





*El 500 aniversario del nacimiento del ilustre hijo del pueblo bielorruso, Franscisco Skarina, primer impresor de libros de los eslavos orientales, será celebrado por todo el mundo de la cultura. En la patria del erudito-científico Polotsk, la preparación para los festejos comenzó ya en el año 1980. En el programa está previsto el estudio de la vida y la obra del patriota civilizador. A finales de junio tuvo lugar en Vitebsk "La fiesta del libro dedicada a Skarina". Los asistentes a los festejos tuvieron encuentros con conocidos escritores bielorrusos, presenciaron conciertos dados por conjuntos de oficionados, en la feria del libro adquirieron los títulos de su agrado.*

*EN LAS FOTOS: uno de los momentos de la fiesta. En el escenario — participantes del conjunto de aficionados; el poeta Serguey Zakonnikov (a la izquierda) dándole su autógrafo a la joven habitante de Vitebsk, Natasha Lopujova.*

*Fotos A. TSERLUKIEVICH.*

**Redactor de la "Página en español": D. OKULIK.**

*НЕВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ*

# НЯВЕСТА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

**Адной з самых блізкіх да Кастуся Каліноўскага асоб (магчыма нават самай блізкай) на заключным этапе паўстання была яго нявеста — Марыя Ямант. Парадаксальна, але на сённяя гэтая асоба аказалася і самай забытай. Дарэмна шукаць аб ёй якія-небудзь звесткі ў даследаваннях, прысвечаных паўстанню 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве ці дзейнасці беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, ці ў даведачных выданнях, што выйшлі апошнім часам. Дадзеная публікацыя, прысвечаная жыццёваму шляху Марыі Ямант, заклікана паслужыць пачаткам працэсу вяртання гэтай асобы, усёй сям'і Ямантаў у гісторыю нацыянальна-вызваленчай барацьбы на беларуска-літоўскіх землях другой паловы XIX стагоддзя.**

Марыя Ямант нарадзілася ў Вільні каля 1843 года ў мнагадзетнай сям'і (у яе было яшчэ тры сястры і два браты). Бацька Марыі — Тадэвуш Ямант служыў у адміністрацыі маёнткаў князя Вітгенштэйна, размешчаных на тэрыторыі Беларусі і Літвы, і добра ведаў становішча сялян, іх патрэбы, беды. Можа быць таму ў сям'і Ямантаў панавалі настроі, несумяшчальныя з духам тагачаснай самадзяржаўнай ідэалогіі. І не дзіўна, што ўсе дзеці Ямантаў, акрамя старэйшага сына, які служыў у Пецярбургу, прынялі ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху, заплаціўшы за гэта шматгадовай ссылкай у Сібір.

Іосіф Ямант, таварыш Кастуся Каліноўскага па Пецярбургскаму універсітэту, здольны і прадпрымальны, паводле слоў Я. Гейштара, «быў вельмі карысным» у час паўстання, займаў пасаду рэвалюцыйнага камісара Мінскай губерні.

Усе сёстры Ямант — Марыя, Алена, непаўналетняя Схаластыка, а таксама самая старэйшая Людвіка (у той час ужо была замужам за Л. Радзевічам і жыла асобна ад бацькоў) уваходзілі ў склад Жаночага камітэта ў Вільні. Гэты камітэт актыўна супрацоўнічаў з падпольнай рэвалюцыйнай арганізацыяй. Характарызуючы яго дзейнасць, Людвіка ў сваіх успамінах пісала: «Было ў нас тады многа жанчын надзвычайнай сілы духу і мужнасці. Некаторыя, з выгляду ціхія і нясмелыя, у момант небяспекі неаднаразова дэманстравалі сапраўдны гераізм і бясстрашнасць». Да такіх жанчын належалі і сёстры Ямант. Яны захоўвалі і распаўсюджвалі нелегальную літаратуру, нарыхтоўвалі правіянт, амуніцыю і зброю для будучых паўстанцаў, хавалі паўстанцкія друкарні і г.д.

Бацькі Ямант, у сілу пажылога ўзросту, непасрэднага ўдзелу ні ў падрыхтоўцы, ні ў самім паўстанні не прымалі. Аднак ведалі пра дзейнасць сваіх дзяцей і падтрымлівалі іх. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць адзін з паплечнікаў К. Каліноўскага І. Мілевіч.

З лета 1863 года ў доме гэтай патрыятычнай сям'і ў Вільні знаходзілася адна з галоўных канспіратыўных кватэр К. Каліноўскага. Спачатку ён тут жыў, а затым прымаў найбольш блізкіх і правераных людзей.

Найбольш каштоўныя звесткі аб сувязях К. Каліноўскага з сям'ёй Ямант мы знаходзім у паказаннях Іосіфа Каліноўскага (цёзка па прозвішчу) Віленскай асобай следчай камісіі. Паколькі яго ўспаміны і пісьмо будуць цытавацца намі часта, напомнім коратка пра яго жыццёвы шлях. Іосіф Каліноўскі (1835—1907 гады) нарадзіўся ў Вільні ў сям'і дырэктара Дваранскага інстытута, які ён скончыў з залатым медалём. Адукацыю атрымаў у Пецярбургу ў Ваенна-інжынернай акадэміі (да паступлення туды два гады вучыўся ў Горы-Горацкім агранамічным інстытуце). З 1860 года знаходзіўся на ваеннай службе ў Брэсцкай крэпасці. Пасля пачатку паўстання 1863—1864 гадоў выйшаў у адстаўку ў чыне капітана, прыбыў у Вільню і ўзначаліў Ваенны аддзел рэвалюцыйнай арганізацыі Беларусі і Літвы. Легальна пражываў у Вільні ў бацькоў, афіцыйна займаў пасаду настаўніка ў гімназіі.

Пасля арыштаў і эміграцыі шэрагу кіраўнікоў паўстання разам з К. Каліноўскім належаў да яго кіраўніцтва, хоць погляды апошняга не падзяляў. Іосіф Каліноўскі быў арыштаваны з 24 на 25 сакавіка 1864 года і прыгавораны да пакарання смерцю, якое ўлады замянілі 10 гадамі катаргі. Яго ўспаміны, паказанні і пісьмы з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі паўстання 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве. Заўважым, што паказанні Іосіфа Каліноўскага былі дадзены тады, калі Кастуся Каліноўскага ўжо не было ў жывых, а пра дзейнасць сям'і Ямантаў было добра вядома следчай камісіі. Тым не менш праз шмат гадоў ён напісаў, што ў адносінах гэтай сям'і ён адчувае мукі сумлення. Вось што паведаміў І. Каліноўскі Віленскай асобай следчай камісіі аб сувязі Кастуся Каліноўскага з сям'ёй Ямантаў: «У канцы жніўня ці ў пачатку верасня (1863 года) з ім (Кастусём Каліноўскім) зноў сышоўся на Нямецкай вуліцы, тады ён клікаў (мяне) у кватэру, якая аказалася потым кватэрай Ямантаў... З таго часу я сустракаўся з Каліноўскім... у той жа кватэры, а потым на яго кватэры ў доме гімназіі... Пры ўваходзе ў кватэру Ямантаў трэба было пастукаць. У тыя часы, калі я ў ёй бываў, дзверы адчыняў ці сам Каліноўскі ці Далеўскі...»

Дадатковыя падрабязнасці на гэтую тэму ўтрымліваюцца ў паказаннях В. Парфіяновіча, які выдаў месца жыхарства К. Каліноўскага палкоўніку Лосеву. Падзеі, аб якіх тут ідзе размова, адбыліся восенню 1863 года.

«Вярнуўшыся каля 4 гадзін апоўдні, Міхаіл Аскерка (рэвалюцыйны камісар Мінскай губерні да прызначэння на гэтую пасаду Іосіфа Яманта — **В. Ш.**) мяне ўзяў з сабой і завёў да Ямантаў. Там пастукаў у дзверы, якія адчыніла, здаецца, дзяўчына Ямант, і мы ўвайшлі ў маленькі пакойчык ад уваходу прама... Увайшоўшы туды, мы знайшлі Каліноўскага і Мілевіча... Аскерка сказаў маё прозвішча, але Каліноўскі пра сваё ўмаўчаў».

У паказаннях В. Парфіяновіча ёсць нават апісанне мэбліроўкі пакоя К. Каліноўскага ў доме Ямантаў: «У пакоі справа ад дзвярэй знаходзілася канапа, пры ёй стол і два крэслы, далей стаяў камод, акно справа ад канапы выходзіла ў галерэю».

Менавіта ў гэтым пакоі, што знаходзіўся ў доме Ямантаў, неаднаразова праводзіліся Кастусём Каліноўскім нарады з кіраўнікамі паўстання, якія апісала ў сваіх успамінах Людвіка Ямант (Радзевіч).

Відаць, летам 1863 года ў Вільні і нарадзілася вялікае і сапраўднае каханне паміж Марыяй і Кастусём. Паколькі праяўленне сапраўдных пачуццяў не мае патрэбы ў лішніх сведках, не будзем траціць час на іх пошукі. Высветлім прынцыповае пытанне: «Ці была Марыя нявестай беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата?» Сцвярджальны адказ на яго змяшчаецца ў рукапісных успамінах Людвікі Ямант (Радзевіч), старэйшай сястры Марыі. (Урывак з іх ужо друкаваўся ў «Голасе Радзімы»). На адной са старонак гэтага неапублікаванага рукапісу чытаем: «Старэйшая сястра Марыя была нявестай Кастуся Каліноўскага». Дарэчы растлумачыць, што старэйшай сястрой Марыя названа тут у адносінах да Алены і Схаластыкі.



Марыю і Кастуся аб'ядноўвалі ідэалы нацыянальна-вызваленчай барацьбы, мары пра народнае шчасце, у імя якога яны змагаліся. Лёс будучай сям'і прадвызначыў арышт К. Каліноўскага, які адбыўся ў у ноч на 29 студзеня 1864 года. Наколькі дарагая была Марыя Кастусю, сведчаць радкі з яго пісьма-верша, напісанага нявесце ўжо з няволі:

**Марыска чарнабровая, галубка мая,**
**Дзе ж падзелася шчасце, ясна доля Твая:**
**Усё прайшло, — прайшло як не бывала,**
**Адна страшэнна горыч у грудзях застала.**

У сваім пасланні К. Каліноўскі супакойвае сваю нявесту, пераконвае яе ўспрыняць яго блізкую і немінучую смерць як волю лёсу, хаця духоўнай сувязі паміж ім і каханай не разарвуць ніякія сілы ў свеце. Яго голас дойдзе да яе нават з магілы. Сапраўды, моцнае, як смерць, каханне!

**Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,**
**Но прымі цяжкую кару, прадвечнага волю.**
**А калі мяне успомніш, шчыра памаліся,**
**То я з таго свету Табе адзавуся...**

Пісьмо Кастуся Каліноўскага Марыі Ямант — гэта бессмяротны помнік выдатнага кахання. Цяжка паверыць, што гэта прыклад з рэальнага жыцця, а не з мастацкай літаратуры, настолькі ўражвае ў ім прыгажосць, веліч і сіла пачуцця. Здаецца, што гэтыя радкі не можа прачытаць раўнадушна ні адзін чалавек.

Аказаўшыся ў няволі, К. Каліноўскі спрабаваў адвесці навіслую над сям'ёй Ямантаў бяду. (Гэта так характэрна для нашага рэвалюцыянера-дэмаката!). Нягледзячы на неабвержныя факты, якія меліся ў распараджэнні Віленскай асобай следчай камісіі, што ўказвалі на яго трывалыя сувязі з сям'ёй Ямантаў, К. Каліноўскі мужна заявіў: «Пры гэтым станоўча сцвярджаю, што ў сямействе Ямантa ніколі не бываў (!) і прозвішча гэтае чуў толькі ў Пецярбургскім універсітэце, але з самім студэнтам з гэтым прозвішчам знаёмы не быў і нават не ведаю яго ў твар». Аднак следчая камісія не прыняла пад увагу заяву К. Каліноўскага. Уся сям'я Ямантаў (акрамя Людвікі, якая жыла асобна) была кінута ў турму. Арышт сям'і дэталёва апісаны ва ўспамінах Людвікі:

«Ноччу зграя жандараў награнула ў дом да маіх бацькоў і ўсіх, хто быў там, пачынаючы з брата Юзэфа, арыштавалі, а дом апячаталі. Забралі бацьку і маці, людзей пажылых, вядомых і паважаных у горадзе, тры сястры: Марыю, Алену і Схаластыку (яшчэ непаўналетнюю), а таксама служанку Карусю».

Летам 1864 года ўся сям'я Ямантаў (акрамя непаўналетняй Схаластыкі) была выслана ў Сібір: Юзэф — у Томск, а бацька, маці, Марыя і Алена — у Табольск. Сумны дзень ад'езду Ямантаў з Вільні 11 ліпеня 1864 года і пачатак іх нялёгкага шляху выгнаннікаў апісаў у сваіх успамінах Іосіф Каліноўскі, які тым жа цягнікам разам з імі адпраўляўся ў Сібір:

«Мы размясціліся ў вагонах у страшнай цеснаце, дзень быў спякотны. Калі поезд праходзіў міма прыгарадных узгоркаў, на іх стаялі людзі, кідалі кветкі... Па дарозе нічога асаблівага не здарылася. Назаўтра каля поўдня прыбылі ў Пецярбург; высадзілі нас на вакзале, дзе мы маглі правесці некалькі гадзін. Знаёмым было дазволена нас наведаць. Да мяне прыйшоў даўні прыяцель доктар (Іосіф) Пазнанскі, у якога раней, больш дзесяці год назад, я спыняўся. Сям'я Ямантаў затрымалася (у Пецярбургу) на больш доўгі час для спаткання з роднымі. Старэйшы сын Ямантаў служыў капітанам ці ў інжынерных войсках, ці ў Генеральным штабе, дакладна не помню, малодшы Іосіф незадоўга да гэтага быў ужо высланы ў Табольск. Развітанне з сям'ёй было кранаючым».

Праз некаторы час Яманты з партыяй ссыльных адправіліся з Пецярбурга ў Сібір. Праз Маскву да Ніжняга Ноўгарада ехалі па чыгунцы, адтуль параходам па Волзе і Каме плылі да Пярмі, з Пярмі да Цюмені дабіраліся на конях, нарэшце, з Цюмені да Табольска ішлі пешкі звычайнай этапнай дарогай, дзе два дні дарогі чаргаваліся з днём адпачынку. Відаць, толькі ў канцы 1864 года прыбылі да месца сваёй ссылкі.

Асабліва цяжкім быў апошні адрэзак шляху ад Цюмені да Табольска. Наперадзе партыі ссыльных ішлі, як звычайна, крымінальнікі, для якіх прызначаліся на этапах лепшыя месцы начлегу і адпачынку. У выпадку нездаволенасці з боку палітычных ссыльных, варта для ўтаймавання іх кідала крымінальныя элементы, аддаючы ў іх уладу лёсы выгнаннікаў.

Так ужо на пачатковым этапе ссылкі суровыя выпрабаванні выпалі на долю гэтай *патрыятычнай сям'і*. Яны суправаджалі яе на працягу ўсіх дзесяці год выгнання. На жаль, падрабязнасцей жыцця Ямантаў у Табольску мы не ведаем. Аднак Іосіф Каліноўскі, больш дасведчаны ў іх пакутніцкім жыцці, у адным з пісьмаў пісаў, што гэтая сям'я ў Сібіры «моцна цярпела». Цярпела перш за ўсё таму, што ў сям'і было двое старых бацькоў і дзве пары пяшчотных дзявочых рук, якім не пад сілу было пераадолець фізічныя цяжкасці, з якімі ледзь спраўляліся нават моцныя мужчыны. Пасільную дапамогу Ямантам аказвалі землякі. Адным з блізкіх сяброў сям'і быў урач, мінчанін Пётр Чакатоўскі. Ён асабіста ведаў Кастуся Каліноўскага, і, як можна бачыць па крыніцах, падзяляў яго погляды. У рэвалюцыйнай арганізацыі Беларусі і Літвы ў час паўстання 1863—1864 гадоў ён займаў пасаду начальніка горада Мінска (адпаведную пасаду ў Вільні займаў саратнік К. Каліноўскага Уладзіслаў Малахоўскі). На жаль, неўзабаве П. Чакатоўскі, які затрымаўся ў Табольску з-за хваробы жонкі, вымушаны быў следаваць далей — у Іркуцк.

Аднак і пазбаўленая такой неабходнай падтрымкі, сям'я Ямантаў не згубіла сваіх выдатных чалавечых якасцей, не пала духам. Больш таго, сама гатова была аказваць дапамогу і падтрымку іншым выгнаннікам у гэтым суровым становішчы. Так, Яманты гасцінна прытулілі жонку вядомага рускага рэвалюцыянера-землявольца 60-х гадоў Лангіна Панцялеева, якая следавала з ім у сібірскую ссылку церав Табольск.

Яшчэ ў час следства ў 1864 годзе Л. Панцялееў знаходзіўся ў Вільні ў тым жа Дамініканскім манастыры, што і многія ўдзельнікі паўстання, дзе і пазнаёміўся з мужам Людвікі Ямант — Л. Радзевічам, з якім сядзеў у адной камеры, а праз яго і з Людвікай. Сям'і Радзевіч ён прысвяціў цёплыя радкі ў сваіх «Успамінах» у знак удзячнасці за клопат пра яго і яго жонку ў той цяжкі час. У прыватна-

сці, калі жонка Л. Панцялеева з груднай дачкой прыехала наведаць мужа ў віленскай турме, яна знайшла цяпло ў доме Людвікі Радзевіч. Рускі рэвалюцыянер, адпраўляючыся з Вільні ў мнагалетнюю сібірскую ссылку, прадбачліва захапіў з сабой «рэкамендацельнае пісьмо да Ямантаў». (Пісьмо было, відаць, ад Людвікі, якая знаходзілася яшчэ ў Вільні). Як пісаў у сваіх «Успамінах» Л. Панцялееў, «Яманты адразу ж забралі жонку да сябе». (Сам Л. Панцялееў знаходзіўся ў табольскай турме).

Сям'я Ямантаў цёпла рэагавала на ўсялякі чалавечы ўдзел, увагу да іх ці іх блізкіх. Вось яшчэ адзін факт ужо з успамінаў Іосіфа Каліноўскага:

«Калі я ўжо быў у Іркуцку, атрымаў ад той сям'і (Ямантаў) пісьмо, у якім яна дзякавала за дапамогу, аказаную іх малодшаму сыну (Іосіфу). Падставай гэтаму: партыю ссыльных, сярод якіх знаходзіўся і малады Ямант, мы напаткалі ў дарозе, і я меў магчымасць пагутарыць з ім пару гадзін. Заўважыўшы гэта, начальнік партыі, так званы староста (якога выбіралі самі ссыльныя са сваіх радоў для сувязі з начальнікам канвоя і г.д.) падышоў да мяне і спытаў, што я ведаю пра маладога Яманта, якога абвінавачвалі ў тым, што ў следчай камісіі ён паводзіў сябе не так, як належала. Я адказаў, што нічога дрэннага пра яго не чуў, і гэта было праўдай... Маё запэўніванне змяніла абыходжанне да маладога Яманта як самога старасты, так і ссыльных да лепшага. Пісьмо гэта даставіла мне вялікую радасць».

Дзякуючы сваім незвычайным маральным якасцям, сям'я Ямантаў карысталася сярод выгнаннікаў асаблівай павагай. Характэрныя радкі з пісьма Іосіфа Каліноўскага, напісанага ўжо ў 1874 годзе, калі ён вярнуўся з ссылкі і наведаў у Смаленску доктара П. Чакатоўскага. Пісьмо было адрасавана саратніку Кастуся Каліноўскага — Феліксу Зянкевічу, які яшчэ заставаўся ў ссылцы ў Сібіры. «Дарагі Фелікс! Учарашні вечар правёў у Чакатоўскіх... Ні пра каго са знаёмых не ўспаміналі, толькі пра сям'ю Ямантаў...»

Усе дзесяць год ссылкі Марыя захоўвала памяць пра Канстанціна. Хаця трэба заўважыць, што маладыя дзяўчаты сярод ссыльных былі не такой частай з'явай і таму карысталіся вялікай увагай выгнаннікаў, пераважную большасць якіх складалі маладыя мужчыны. Само сабой зразумела, што шлюбы сярод ссыльных былі даволі частай з'явай. Многія дзяўчаты — удзельніцы паўстання 1863—1864 гадоў выходзілі замуж. Так зрабіла Каміла Дуніна-Марцінкевіч, Караліна Яцына, сястра Марыі — Алена і інш. Марыя свядома адмаўлялася ад магчымасці стварыць у Сібіры сям'ю, працягваючы захоўваць вернасць каханаму.

Каля 1874 года сям'я Ямантаў вярнулася на радзіму. Бацькі атрымалі дазвол пасяліцца ў Літве, Алена з мужам і Марыя ў Варшаве. Тут на Марыю зноў абрынулася няшчасце. Неўзабаве памерлі, як вынік сібірскіх цяжкасцей, сястра Алена і яе муж Антоній Віскоўскі, затым пакінулі жыццё бацькі.

І вось толькі тады, калі на жыццёвым гарызонце замаячыла адзінокая старасць, Марыя дала згоду на шлюб з былым ссыльным, удзельнікам паўстання, Войцэхам Дмахоўскім. Памерла Марыя Ямант, відаць, у Варшаве.

Так трагічна склаўся лёс гэтай выдатнай жанчыны, якая аддала лепшыя гады свайго жыцця нацыянальна-вызваленчай барацьбе, а сэрца — палымянаму рэвалюцыянеру.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: сям'я ЯМАНТАЎ у Табольску. Паміж бацькамі стаіць Марыя, нявеста К. Каліноўскага (злева).**

# ЯНЫ ПРАЙШЛІ ПРАЗ ВАЙНУ

Пад такой назвай прайшла ў мінскім Палацы мастацтва выстаўка мастакоў — ветэранаў Вялікай Айчыннай. Яны не проста прайшлі праз вайну. Яны кавалі Перамогу кожны дзень, ішлі ў адзіным страі байцоў са зброяй і з алоўкам у руках. Вялі своеасаблівы рэпартаж. Многае з таго, што было створана за гады вайны, бясследна прапала. Захаваныя малюнкі ўвайшлі ў самастойны раздзел выстаўкі. Пачаткам суровага ліхалецця адзначаны франтавыя замалёўкі С. Раманава, М. Бельскага, С. Каткова, І. Давідовіча, І. Ціханава, Ю. Пучынскага, М. Гуціева, У. Сухаверхава, Н. Воранава і іншых. Усе яны вызначаюцца ўменнем дакладна бачыць і фіксаваць падзеі, ствараючы пераканаўчую ў сваёй непрыхарошанай праўдзе панараму ваеннага жыцця і быту людзей.



Часам, выконваючы ролю фатографаў, мастакі малявалі сваіх баявых таварышаў, камандзіраў і радавых салдат, партызан.

Для многіх мастакоў ваенны перыяд быў школай не толькі жыцця, але і мастацтва. І па сённяшні дзень гераізм і мужнасць пераможцаў з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай для творчасці.

У першыя пасляваенныя гады побач з адлюстраваннем нядаўна перажытага ў работах з'яўляецца ўрачыстасць і асаблівая значнасць таго, што адбываецца, як, напрыклад, у карціне У. Сухаверхава «За родную Беларусь». І толькі пазней прыходзіць паэтычная абагульненасць вобразаў, якая адлюстравалася ў карцінах В. Сахненкі «Гэта наша зямля», Я. Зайцава «Памяці загінуўшых».



Злучэнне дакументальнасці і рамантычнай прыўзнятасці ўласцівае пераканаўчым у сваёй праўдзівасці карцінам С. Раманава, што адлюстроўваюць падзеі, удзельнікам якіх быў мастак, палотнам І. Ціханава «Уручэнне партбілетаў», П. Масленікава «Прысвячэнне 1-й ударнай», М. Гуціева «На аэрадроме», А. Мазалёва «У партызанскім штабе», Л. Шчамялёва «Палявая крыніца».

Псіхалагічная характарыстыка душэўнага стану герояў раскрыта М. Савіцкім у рабоце «41-шы дзень Перамогі».

Глыбокімі асабістымі пе[illegible]ываннямі прадыктаваны карціны М[illegible]Савіцкага «Свабода», «Гэтыя выжылі», «Апазнанне», якія завяршаюць серыю «Лічбы на сэрцы». Антываенная тэма набывае тут яркую публіцыстычнасць, у іх гучыць заклік да захавання міру.

Скрозь прызму сённяшня[illegible]я паказаны падзеі мінулай вайны у карціне Л. Шчамялёва «Светлая памяць», якая нібы гучыць мажорным акордам у экспазіцыі, а таксама ў палотнах М. Чэпіка, У. Мінейкі, Х. Ліўшыца.

Характэрны зварот мастакоў да пейзажу як сродку выказвання сваіх пачуццяў. Прырода была верным памочнікам партызан. Абагульнены эпічны вобраз зямлі беларускай створаны ў пейзажах В. Грамыкі, П. Данеліі, А. Бархаткова, І. Дмухайлы.

Тэма Перамогі знайшла адлюстраванне ў керамічных работах Т. Паражняка, прысвечаных Мінску і Брэсцкай крэпасці. Творчасць гэтага мастака, які плённа працуе, нягледзячы на цяжкае раненне, атрыманае на вайне,— штодзённы подзвіг.

Больш як трыццаць гадоў працуе ў жывапісе і графіцы над тэмай абароны Брэсцкай крэпасці П. Дурчын. Навечна застануцца ў страі байцоў і камандзіраў намаляваныя ім капітаны І. Зубачоў, В. Шаблоўскі, камісар Е. Фамін.

Р. Вітkоўскі ў сваіх графічных лістах звяртаецца да вобразаў мінскіх падпольшчыкаў.

Рэтраспектыўная частка выстаўкі ўключала творы мастакоў, якія памерлі, але пакінулі свой след у гісторыі беларускага мастацтва, такіх, як П. Гаўрыленка, П. Рамаоўскі, А. Шаўчэнка, М. Блішч, М. Тарасікаў, С. Селіханаў, А. Глебаў.

**Л. БОРТНІК.**

**НА ЗДЫМКАХ: рэпрадукцыі з карцін У. СУХАВЕРХАВА «За родную Беларусь» і М. ПАЛЯНКОВА «Бярозавы сок».**

## *НА МОВАХ СВЕТУ*

### ГДР

Творы Уладзіміра Караткевіча прыцягваюць усё большую ўвагу выдаўцоў замежных краін. Берлінскае выдавецтва «Нойес Лебэн» выпусціла нядаўна аповесць пісьменніка «Дзікае паляванне караля Стаха» ў перакладзе на нямецкую мову Інгеборг і Алега Калінко. Выдавецкая анатацыя так рэкламуе гэты твор: «Па дарозе праз беларускія вёскі фалькларыст Беларэцкі трапляе навальнічною ноччу ў адлеглы замак. Тут жыве апошняя прадстаўніца старажытнага шляхецкага роду Яноўскіх, якая паводзіць сябе не зусім звычайна. Над яе сям'ёю нібыта вісіць праклён: паміраючы, кароль Стах, на якога подла напаў адзін з продкаў Яноўскіх, пакляўся вынішчыць гэты род. З тае пары дзікае паляванне караля Стаха нягучна лунае над балотам і шукае новых ахвяры. Беларэцкі, чалавек, які займаецца навукай, не хоча верыць у розныя зданi і забабоны. Але, спрабуючы разгадаць таямніцу падзей, што адбываюцца, ён адчувае таксама на сабе ўладу Дзікага Палявання».

### ПОЛЬШЧА

Творы Васіля Быкава не патрабуюць асаблівай рэкламы для польскага чытача, яны часта выходзілі ў краіне. Але выдавецкія правілы патрабуюць змяшчаць да кнігі кароткую анатацыю. У надрукаванай на супервокладцы анатацыі да аповесці пісьменніка «Пайсці і не вярнуцца», якая выпушчана Люблінскім выдавецтвам, сказана: «Васіль Быкаў належыць да ліку самых выдатных прадстаўнікоў сучаснай беларускай прозы. Заняўся выключна ваеннай тэматыкай, але цікавяць яго не баявыя дзеянні, а псіхалогія чалавека ў змаганні, складаныя маральныя канфлікты, матывы дзеянняў. Героі Быкава — звычайныя людзі, партызаны, салдаты — паказаны, як правіла, у драматычных сітуацыях, якія вымагаюць прыняцця канчатковых рашэнняў, іх геройства не з'яўляецца нечым звышчалавечым, вырастае з франтавой штодзённасці, нярэдка — са звычайнага выпадку».

З беларускай мовы на польскую твор пераклаў Анджэй Бень (раней ён пераклаў «Воўчую зграю» Быкава, якая выйшла ў 1981 годзе).

### РУМЫНІЯ

Бухарэсцкае выдавецтва «Універс» выпусціла «Хатынскую аповесць» Алеся Адамовіча пад назвай «Вогненны круг». На румынскую мову твор пераклалі Мірча Спірыданяну і Ігар Талмацкі. Аўтар вялікага «Уступнага слова» да кнігі Міхай Новікаў рэзюміруе, што «Вогненны круг» — гісторыя аднаго эпізода, надзвычайнай трагедыі беларускага насельніцтва, убачаная не здалёку, а праз людзей, праз жыццё іх, поўнае пакут, хваляванняў, гісторыя заваяваных, але не зламаных духам людзей...

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**







## СПАРТЫЎНА-МАСТАЦКАЕ СВЯТА

# «МІНСК-88»

**У гэты дзень наш Мінск нібы яшчэ больш расквітнеў і папрыгажэў. На плошчах, у скверах і парках гучала музыка, выступалі прафесійныя артысты і калектывы мастацкай самадзейнасці. Апынуўшыся ў парку імя Горкага, тысячы шчаслівых дзяцей лічылі, што свята арганізавана толькі для іх. У кожным кутку іх чакалі сюрпрызы: фестываль дзіцячай тэхнічнай творчасці, конкурсы малюнкаў, спартыўныя спаборніцтвы.**

**У скверы Янкі Купалы над Свіслаччу былі прадстаўлены ўсе творчыя саюзы рэспублікі. Выступалі кампазітары, паэты, пісьменнікі, кінарэжысёры. Праходзілі канцэрты аркестраў і музычных ансамбляў.**

**Ад плошчы Свабоды і далей, па абодвух баках праспекта Машэрава, раскінуў свае рады «Мінскі кірмаш». Кібіткі, кофры, печы, вазы прываблівалі разнаколернасцю тавараў. Усё літаральна пранізана было апетытным пахам пірагоў і хатніх каўбас. На «Кірмашы рамёстваў» можна было вывучаць традыцыі беларускіх народных промыслаў: вышыўкі, пляцення з саломкі і вярбы, разьбы і роспісу па дрэву. У ім прынялі ўдзел прызнаныя таленты з усёй рэспублікі. Яны стваралі свае творы прама на вачах у гледачоў, па ходу шчодра дзелячыся сакрэтамі майстэрства.**

**Вечарам песняй «Родны мой горад» у выкананні ансамбля «Верасы» адкрылася вялікае тэатралізаванае прадстаўленне на стадыёне «Дынама». Больш за 50 тысяч гледачоў назіралі цудоўны спектакль у выкананні зорак савецкай эстрады.**

**Вечарам неба Мінска расквецілася рознакаляровым феерверкам.**







**НА ЗДЫМКАХ: вясёлае, цікавае свята паклікала на вуліцы і плошчы горада тысячы мінчан і гасцей беларускай сталіцы; свята было прымеркавана да 44-й гадавіны вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, таму ў гэты дзень ля помнікаў і абеліскаў адбываліся мітынгі, на якіх прысутнічалі ветэраны і моладзь; Надзея ПАНЦЯЛЕЕВА, майстрыха Магілёўскай фабрыкі мастацкіх вырабаў, была сярод тых, хто дэманстраваў сваё майстэрства; выступае фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Свята»; кніжны кірмаш — абавязковае мерапрыемства свята.**



## ПРА СЛАВУТЫХ ЛЮДЗЕЙ РОДНАГА КРАЮ

Выдавецтва «Навука і тэхніка» пачало выпуск навукова-папулярнай серыі «Нашы славутыя землякі». Выйшла з друку першая кніжка — «Прафесар электраграфіі і магнетызму». Яе аўтары — В. Грыбкоўскі, В. Гапоненка і У. Кісялёў. Расказваецца пра таленавітага беларускага вучонага Якуба Наркевіча-Юдку (1847—1905), імя якога ў канцы мінулага і пачатку гэтага стагоддзя было добра вядома не толькі ў Беларусі, але і ў Італіі, Францыі, Германіі. У 1896 годзе ў Парыжы была нават выдадзена кніга пра яго жыццё і навуковую дзейнасць.

Займальнае выкладанне матэрыялу, мноства ілюстрацый, прывабнае афармленне і невысокі кошт, безумоўна, прыцягнуць да кнігі ўвагу шматлікіх чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй роднага краю.

У наступным годзе выдавецтва выпускае тры серыйныя кніжкі—«Рыцар навукі з Нянькава» (пра Уладзіслава Дыбоўскага), «Адысея навагародскай лекаркі» (пра Саламею Русецкую) і «Вяшчун славы і волі» (пра Уладзіслава Сыракомлю).

Надалей у серыі «Нашы славутыя землякі» плануецца выдаваць чатыры-пяць кніжак штогод.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1065